



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

21 жніўня 2015 года №34 **(1060)**


**Мядзяльчанка захапілася пейнтболам і адкрыла клуб**
старонка 3

**Штогод першакласнік даражэе амаль на мільён**
старонка 5

**Небяспечная язда на ровары правакуе моцныя траўмы**
старонка 21



# *Усе дзяўчаты мараць, каб насілі на руках, а я хачу хадзіць САМА*

**Чытайце на 20-й старонцы**

Фота забяспечана Веранікай ЯКУШЫК.

● ПЫТАЙЦЕСЯ-АДКАЗВАЕМ

# Спазняюся на працу: не паспеў купіць білет

МАЛАДЗЕЧНА

**З такой праблемай звярнуўся ў рэдакцыю “РГ” маладзечанец Міхаіл.**

Мужчына ездзіць на работу ў Мінск з прыпынку “Фестывальны”. Ён садзіцца на электрычку, якая адпраўляецца ў 06:52.

Штораніцу на пероне разам з ім стаіць таксама нямала тых, каму трэба на Мінск. Чарга за білетамі выстройваецца вялікая. Але працуе толькі адна каса, і касір прадаць білеты ўсім не паспявае. Паводле слоў маладзечанца, калі прыязджае электрычка, некаторыя не могуць сесці на рэйс толькі таму, што ім не паспелі прадаць білет.

У першы дзень Міхаілу прабачылі на рабоце спазненне. Такая ж сітуацыя адбылася на наступны дзень. Міхаіл рызыкнуў і сеў на электрычку без білета.

– Няўжо так цяжка хаця б на такія папулярныя рэйсы адкрываць адразу дзве касы? – пытаецца чытач “РГ”.



Электрычку не дагоніш!

### Купіце білет загадзя

Вы дакладна не спозніцеся, калі скарыстаецеся паслугай Беларускай чыгункі, якая дазваляе купляць білеты на электрычку за дзесяць дзён да паездкі.

Начальнік маладзечанскага чыгуначнага вакзала **Аляксандр Савачкін** тлумачыць, што ў выпадках, калі не паспелі прадаць білет, пасажырам варта скласці калектыўны зварот да кіраўніцтва чыгункі. Гэта неабходная мера, каб адміністрацыя бачыла, што мае справу не з адзінкавай праблемай аднаго пасажыра. Калі пытанне набывае масавы характар, то праца абодвух кас у гэты час можа быць эканамічна абгрунтаванай.

Аляксандр Савачкін прапануе падумаць пра іншыя спосабы рашэння сітуацыі: купіць білет загадзя ці набыць абаненцкі білет на месяц. Цяпер Беларуская чыгунка распрацоўвае магчымасць купляць білеты на электрычкі праз інтэрнэт.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота забяспечана Яўгенам РАБКОЎЫМ.

● 20 ГОД “РГ”

## Яўген Рабкоў: “Газету пачынаю чытаць з рэкламнай старонкі”

МАЛАДЗЕЧНА

**Магазін “Бензаэлектратэхніка” плённа супрацоўнічае з “Рэгіянальнай газетай” амаль ад самага заснавання.**

Намеснік дырэктара магазіна **Яўген Рабкоў** адзначае, што ён неактыўны чытач газет, з навінамі рэгіёна знаёміцца праз інтэрнэт. Яго жонка заўсёды ў курсе свежых навін, таму дома дзеліцца імі.

– Для мяне як спецыяліста больш важна ведаць тыя выданні, у якіх наша рэклама дакладна спрацуе, прывабіць патэнцыйнага кліента. Сярод такіх выданняў і “Рэгіянальная газета”, – расказвае Яўген. – Цяпер будую дом, таму калі купляю газету, пачынаю праглядаць з рэкламнай старонкі. Шукаю паслугі, якія цікавяць менавіта ў гэты час.

Мужчына адзначае, што ў “Рэгіянальнай газеце” дастатковая колькасць аб’яў, рэкламных прапаноў.

– Прыемна радуе тое, што яны размешчаныя так, што лёгка знайсці пэўную паслугу, не трэба шалёна гартаць газету, каб разабрацца, што дзе знаходзіцца, – дзеліцца Яўген. – Блочная рэклама аформленая з густам – сціпла, але кідаецца ў вочы.

Яўген Рабкоў адзначыў, што ўсе паслугі, якія былі патрэбныя, знайшоў. Тэлефанаваў, каб выбраць той варыянт, які падыходзіць менавіта яму.

**Галіна СІНІЦА.**

БІЗНЕС

# Мару ператварыла ў справу

## Мядзяльчанка захапілася пейнтболам і адкрыла клуб

МЯДЗЕЛ

**Ці цяжка развіваць модную забаву ў глыбінцы, як пейнтбол захоплівае пенсіянераў.**



Фота забеспечана Кацярынай Роліч

Кацярына Роліч марыць стварыць жаночую каманду па пейнтболе.

Пра гэта разважае 27-гадовая гаспадыня пейнтбол-клуба "Grad" з Мядзела **Кацярына Роліч.**

Гады тры таму яна на дні нараджэння ў знаёмай у Сілічах пагуляла ў пейнтбол. Гульня так спадабалася, што адразу з'явілася ідэя адкрыць такі клуб у Мядзеле.

– На той момант не было ні грошай, ні магчымасцяў. А праз нейкі час захацелася чагосьці творчага, для душы – і зноў усплыла ідэя стварэння клуба.

Кацярына апытвала людзей, ці трэба ім будзе такая забава. Наведвала вялікія сцэнарныя гульні: вучылася, як робяць іншыя клубы.

Ад цэнтра занятасці яе накіравалі на курсы для індывідуальных прадпрымальнікаў у сталіцы. Абараніла бізнес-план і атрымала субсідыю на адкрыццё ўласнай справы. Дапамаглі гэтыя грошы ў абсталяванні пляцоўкі. Запрацаваў клуб ад пачатку лета.

**– Што было самае цяжкае падчас адкрыцця?**

– Каб не зрабілі так, што адразу закупілі абсталяванне, а потым сталі думаць, як гэта зрабіць, то, магчыма, клуба не было б, – усміхаецца Кацярына. – Калі ўжо абсталяванне ляжыць, тады ўжо прыкладаеш усе намаганні і фантазію.

Былі складанасці з выбарам пляцоўкі для гульні: каб была цікавая і падыходзіла па характарыстыках. Урэшце спыніліся на пляцоўцы ў вёсцы Шыкавічы ля Мядзела. Абсталявалі яе, распрацавалі розныя сцэнарыі гульняў.

### Хоча стварыць жаночую каманду

Жанчына-гаспадыня пейнтбол-клуба – рэдкасць для Беларусі.

– Але гэта мая ідэя, мая мара, – дзеліцца Кацярына. – Гэта толькі здаецца, што кіраваць падобным клубам – мужчынская справа. Пэўна, проста жанчыны баяцца займацца. Калі ж трэба фізічная сіла, каб абсталяванне перанесці – мне тады сям'я дапамагае. Гуляе да 15-ці чалавек – і цалкам адзін інструктар з імі спраўляецца.

Расказвае Кацярына, што ў Расіі праводзяцца адмысловыя жаночыя спаборніцтвы. І яна спрабуе стварыць каманду пейнтбольнага клуба, каб у будучым удзельнічаць у спаборніцтвах. Цяпер каманда змешаная, а з цягам часу хоча стварыць жаночую.

### Пейнтбол – гульня камандная

Прыязджаюць у клуб гуляць і дарослыя, і дзеці. Звычайна бяруць ад 12 год, але, здараецца, і меншых бацькі прывозяць. Нядаўна гуляла бабуля з дзядулем. Ім – па 64 гады. Гэтак адзначылі выпускны ўнучкі ў каледжы.

– Так вялі бой, што мы былі ў захапленні. Бабуля за дзядулю больш трымалася, а той быў сапраўдны палкаводзец.

**– Што галоўнае для гульцоў у пейнтбол?**

– Жаданне. І гуляць ад душы. Калі дзеляцца на каманды, у першую чаргу кажу: як бы у вас ні пайшла гульня, поспех залежыць ад таго, наколькі зладжаная каманда, наколькі добра вы можаце кантактаваць. Галоўнае, хварэць за каманду, за тое, што робіць зараз.

Самае прыемнае ў працы, лічыць Кацярына, – гэта кантакты з людзьмі. Яны прыязджаюць адпачыць, дораць пазітыўныя эмоцыі:

– Было вельмі прыемна, як дзякавалі важатыя пасля гульні для ўдзяцей з нешчаслівых сем'яў. А дзеці, якія прыязджалі з Будслаўскага касцёла, тры разы гучна крычалі "Дзякуем!". Так шчыра яшчэ ніхто не дзякаваў.

### "Эмоцый, уражанняў шмат"

Пераважна прыязджаюць гуляць у пейнтбол мясцовыя людзі. Бывае, адпачывальнікі на Нарачы завітваюць. Вырашылі завяршыць свой мядовы месяц на Нарачы пейнтболам маладыя і іх сведка з Гомеля.

**– Ці складана весці падобны бізнес у невялікім гарадку. Усё ж насельніцтва няшмат...**

– Стараемся рабіць усё ад душы, сустракаем гасцей з адкрытым сэрцам. І яны прыязджаюць па трэцім-чацвертым разе.

Каб у людзей засталася памяць аб гульні, выкладваюць фатаграфіі ў старонцы ў сацсетцы, на сваім сайце.

– Ідэі з'ехаць адсюль няма – хочацца ў сваім горадзе гэта ўсё развіваць, – упэўнівае Кацярына.

> **– І для душы гэта трэба, і для людзей, лічу. Моладзі падабаецца, што дзень нараджэння можна адзначыць цікава. Нават пажылыя кажуць: "Мы, вядома, у гэта гуляць не будзем, але хоць нешта адкрылася".**

Вось і да другой пляцоўкі Кацярына прыглядаецца: будынка былой пральні ў Мядзеле. Ён цікавы, і калі навесці там парадак, добра будзе зімой гуляць. Хоча закупіць абсталяванне "Лазертаг". Жаданне і ідэй для развіцця шмат.

**– Не шкадуеце, што заняліся сваёй справай?**

– Ні ў якім разе. Я гэтым жыву. Я, напэўна, чалавек такі, што для мяне вельмі важныя кантакты з людзьмі – гэта маё. Мне галоўнае, што людзі прыехалі, што ім спадабалася. Зразумела, гэта праца і заробак. На першым этапе грошы не такія вялікія, але пакуль на жыццё хапае. А эмоцый, уражанняў шмат.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".**
**Пейнтбол** – камандная гульня з выкарыстаннем пнеўматычных маркераў. Яны страляюць шарыкамі, напоўненымі водараспушчальнай фарбай. Пры трапленні ў перашкоду шарык лопаецца і пакідае пасля сябе пляму фарбы.



| Курсы валют НБ РБ | 13.08 | 20.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 989,00 | **16 423,00** |
| Еўра | 17 759,00 | **18 198,00** |
| Злоты | 4 137,42 | **4 330,19** |
| Расійскі рубель | 245,87 | **249,93** |
| Грыўня | 735,67 | **735,70** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 19.08** | | |
| Еўра | 17350/17900 | **18050/18500** |
| Долар ЗША | 15760/16100 | **16350/16600** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 12.08 | 19.08 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53800 | **53800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 85000 | **95000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37300 | **37900** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 118000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **14000** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 19000 | **19500** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **5000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39500 | **39500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7900 | **6900** |
| Капуста, 1 кг | 3900 | **4500** |
| Морква, 1 кг | 7900 | **6900** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **4000** |
| Лімоны, 1 кг | 34900 | **38500** |
| Апельсіны, 1 кг | 27500 | **26900** |
| Мандарыны, 1 кг | 28500 | **26500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 27500 | **27500** |
| Ківі, 1 кг | 39500 | **39900** |
| Нектарыны, 1 кг | 24900 | **16900** |
| Абрыкосы, 1 кг | 24900 | **23500** |
| Памідоры, 1 кг | 11500 | **7900** |
| Агуркі, 1 кг | 4900 | **4900** |
| Перац, 1 кг | 11900 | **11900** |
| Вінаград, 1 кг | 34900 | **34900** |
| Бананы, 1 кг | 14900 | **11900** |
| Кавун, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 13000 | **11000** |
| Яблыкі, 1 кг | - | **9900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 22900 | **14900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 4000 | **3500** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

ЗДАРЭННІ

# Кіраўніка прадпрыемства пакараюць за тое, што работнік застаўся начаваць на рабоце

МАЛАДЗЕЧНА

**Непрыемная гісторыя здарылася з работнікам "Купала-Агра". Аднак да адказнасці прыцягнуць кіраўніка.**



Фота forum.awd.ru

Каб не ісці дадому, вырашыў заначаваць на працоўным месцы. Хто ж ведаў, што гэта скончыцца няшчасным выпадкам.

Пра гэты выпадак, які стаў вядомы "хуткай дапамозе", Следчаму камітэту і дэпартаменту дзяржаўнай інспекцыі працы, "Рэгіянальнай газеце", расказаў начальнік Маладзечанскага міжраённага аддзела Мінскага абласнога ўпраўлення Дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы **Дзяніс Томашаў.**

Мужчына, з якім здарыўся няшчасны выпадак, працуе на прадпрыемстве "Купала-Агра" кіроўцам малакавоза. А жыве ён за 4-5 кіламетраў ад месца працы.

У дзень, калі здарылася з ім непрыемнасць, ён позна скончыў работу. Пакуль памыў малакавоз, гадзіннік паказваў час пасля 23:00. А на ранішнюю дойку трэба ў 4 гадзіны.

Мужчына падумаў, што не варта ісці дадому, каб праз некалькі гадзін зноў вяртацца назад. Вырашыў заначаваць у кабіне свайго малакавоза.

Ноччу прачнуўся, каб схадзіць у прыбіральню, але аступіўся, зваліўся з кабіны машыны і ўдарыўся галавой.

На ранішнюю дойку ўсё ж схадзіў, потым адчуў, што блага сябе адчувае і прылёг адпачыць.

Хтосьці з работнікаў прадпрыемства ўбачыў, што кіроўца знаходзіцца ў непрытомным стане. Калегі даставілі мужчыну дадому.

Але ў двары дома проста кінулі яго на траву і з'ехалі.

Там мужчына праляжаў да абеду, пакуль з работы не прыйшла яго жонка. Яна і выклікала "хуткую дапамогу".

Хутчэй за ўсё, гэты выпадак будзе лічыцца як невытворчая траўма, – падсумаваў Дзяніс Томашаў, – але кіраўніка прадпрыемства ўсё ж прыцягнуць да адказнасці за тое, што на прадпрыемстве парушаліся патрабаванні па ахове працы, што адсутнічаў кантроль з боку кіраўніцтва і за тое, што гэты выпадак на прадпрыемстве хацелі схаваць ад упраўлення па ахове працы.

**Наталля ТУР.**

## У аварыі ля Лядовага палаца пацярпела чатырохгадовая дзяўчынка

МАЛАДЗЕЧНА

Сталі вядомыя падрабязнасці аварыі, што здарылася ўчора ў 16:40 на Вялікім Гасцінцы, ля павароту да гандлёвага цэнтра "Тройка".

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

43-гадовы кіроўца аўтамабіля "Фольксваген" ехаў па Вялікім Гасцінцы з боку Мінска. На павароце да гандлёвага цэнтра на дазваляльны сігнал святлафора не саступіў дарогу аўтамабілю "Вольва", што рухаўся з боку Смаргоні. За рулём "Вольвы" была 26-гадовая жанчына.

У выніку сутыкнення чатырохгадовая пасажырка "Вольвы", дачка кіроўцы, атрымала пераломам ключыцы. Дзяўчынка сядзела ў спецыяльным крэсле на заднім сядзенні справа.

Акрамя гэтай дзяўчынкі, у салоне яшчэ знаходзілася двухгадовая дзяўчынка, аднак невядома, ці спатрэбілася ёй дапамога медыкаў.

ДАІ праводзіць праверку, на абаіх кіроўцаў складзеныя пратаколы.

**Наталля ТУР.**

## У Смаргонскім раёне разарвалася кола камбайна: пацярпелі чатыры чалавекі

СМАРГОНЬ

Здарэнне адбылося 14 жніўня ў 11 дня ў вёсцы Сасноўка Смаргонскага раёна, паведамляе Гродзенскае абласное ўпраўленне МНС.

На тэрыторыі механізаваных майстэрняў філіяла "Жодзішкі" УВП "Смаргонскі камбінат хлебапрадуктаў" ішлі зварачныя работы па рамонце дыска пярэдняга кола камбайна 2005 года выпуску. Падчас рамонту колавая шына разарвалася.

У выніку здарэння чатыры работнікі атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці, яны шпіталізаваныя. У камбайне пашкоджаныя прывадныя шківы, шкло кабіны і ахоўны шклопластыкавы кажух над колам. Прычына разрыву высвятляецца.

**"Наша Ніва" паводле БелаПан.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Асудзілі браканьера, які налавіў рыбы на 47 мільёнаў рублёў

ВІЛЕЙКА

Суд Вілейскага раёна 24 ліпеня разгледзеў крымінальную справу па абвінавачванні 56-гадовага жыхара Вілейскага раёна, раней несудзімага. Увечары 22 чэрвеня на сваёй лодцы ён выйшаў на вадасховішча і паблізу Касуты выставіў чатыры рыбалоўныя сеткі.

Пазней мужчына лодку пакінуў на беразе і з'ехаў дадому. На наступны дзень у чатыры гадзіны раніцы паехаў на бераг вадасховішча.

На лодцы паплыў да месца, дзе выставіў сеткі. Пры дапамозе самаробнай прылады зняў іх.

Потым выйшаў на бераг і стаў вымаць рыбу з сетак – яе было шмат. У гэты час да мужчыны падышоў інспектар аховы жывёльнага і расліннага свету, які і затрымаў яго.

Здабыў мужчына 38 судакоў, 11 акунёў, пяць ляшчоў, тры карасі і два шчупакі. Тым самым нанёс шкоду навакольнаму асяроддзю ў памеры больш за 47 мільёнаў рублёў – гэта значыць, у асабліва буйным памеры.

Цяпер мужчына кампенсаваў шкоду цалкам.

Падчас судовага пасяджэння ён вінаватым сябе прызнаў цалкам, у зробленым раскаяўся.

Суд прысудзіў прызнаць яго вінаватым у здабычы рыбы забароненымі прыладамі і спосабамі, якія прывялі да прычынення шкоды ў асабліва буйным памеры. Прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін адзін год са штрафам у 13 з паловай мільёнаў рублёў.

Выкананне асноўнага пакарання адтэрмінавалі на тэрмін адзін год шэсць месяцаў. Мужчыну абавязалі на працягу ўсяго тэрміну перыядычна з'яўляцца на рэгістрацыю ў орган унутраных спраў па месцы жыхарства.

Устанавілі месячны тэрмін з дня ўступлення прысуду ў законную сілу для добраахвотнай выплаты штрафу.

Прысуд абскарджаны, апратэставаны не быў і ўступіў у законную сілу.

**Таццяна ТКАЧОВА,**
**вядучы спецыяліст суда Вілейскага раёна.**

## Шукаюць зніклы ў электрычцы рукзак

МАЛАДЗЕЧНА

На станцыі Уша 5 жніўня знік чорны рукзак. У ім быў чорны нэтбук, мабільны тэлефон "Айфон-4", пенсійнае пасведчанне на імя Яськова А. В.

Калі вы знайшлі згубленае, просім патэлефанаваць на нумар: **(8029) 564-80-02** ці **(8029) 140-64-39**.

**Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце.**

ВЫШУК

## Шукаюць 88-гадовую бабулю

10 жніўня **Вольга Сямёнаўна Кушнярова**, жыхарка вёскі Краснае, пайшла з дому, і да гэтага часу яе месцазнаходжанне невядомае.



Зніклая Вольга Кушнярова.

Як паведамілі "Рэгіянальнай газеце" валанцёры пошукавага атрада "Анёл", бабуля магла з'ехаць з Краснага на чыгуначным транспарце.

Усіх, хто валодае якой-небудзь інфармацыяй, просяць патэлефанаваць:

**8029-152-99-41** – пошукавая служба
**8-0176-74-96-83** – вышук Маладзечна
ці **102**.

АДУКАЦЫЯ

# Штогод першакласнік даражэе амаль на мільён

МАЛАДЗЕЧНА

**Засталося крыху больш за тыдзень – і школы зноў напоўняцца школьнікамі. А пакуль бацькі жывуць клопатам пра тое, як найлепш падрыхтаваць дзіця да школы, дзе набыць неабходныя рэчы.**




У дыяграме паказана, на колькі "падаражэў" першакласнік. Цёмна-шэры фон – танны варыянт, шэры фон – дарагі варыянт.

– Да школы бацькі падрыхтоўваюць дзяцей па-рознаму: некаторыя прыходзяць са спісам і купляюць усё адразу, некаторыя спачатку прыцэньваюцца, толькі пасля робяць пакупкі, – расказвае прадавец адной з маладзечанскіх крам **Алена Жукоўская.**

## Канцылярскія тавары падаражэлі на 50 тысяч рублёў

"Рэгіянальная газета" падлічыла, колькі сёлета будзе каштаваць сабраць першакласніка. Мы ўзялі спіс патрэбных рэчаў з мінулага года. Такім чынам, можна прасачыць, на колькі за год змяніліся цэны.

У спіс уваходзяць два сшыткі ў вялікую клетку, тры сшыткі ў вузкую лінейку, папка для іх, абгорткі для кніг і сшыткаў, закладкі, два блокі для чарчэння ці для малявання, вялікі набор каляровай паперы і кардону, каляровыя алоўкі (не менш за 12 штук), набор фламастараў.

У пенале павінна быць дзве ручкі, два простыя алоўкі, лінейка, тачылка, ласцік. Таксама нацяніць у чахле, клей ПВА, клей-алоўак, пэндзаль для клею і для фарбаў, акварэльныя фарбы, кубачак-невылівайка, пластылін, цыратка, 30 файлаў, кнопкі ці сашчэпкі.

З сабой трэба ўзяць і дзве расфарбоўкі, настольную гульню. Не забудзьцеся купіць спартыўную форму і абутак.

У спісе не ўказаныя ранец ці заплечнік, школьная форма, змены абутак, туфлі ці сандалікі, у якіх ваша дзіця будзе хадзіць у школу. Але іх мы таксама ўзялі ў разлік.

**Калі купляць дарагія канцылярскія тавары, то ў вас пойдзе 701800 рублёў. За больш танныя прыйдзецца заплаціць 279 тысяч рублёў.**

– Некаторыя тавары каштуюць больш дорага таму, што ў іх ёсць нейкая навізна, напрыклад, у тачылках прымацаваны аддзел для смецця, альбо, як у фарбах, у фламастарах, у набор уваходзіць больш колераў, – расказвае прадавец. – Таму некаторыя вырашаюць купіць адразу больш дарагія тавары, чым пасля дакупляць.

## Большасць грошай пойдзе на адзенне

Каб купіць спартыўнае адзенне для дзіцяці, вам спатрэбіцца альбо 600 тысяч рублёў, альбо 385 тысяч рублёў – у залежнасці ад вашых фінансавых магчымасцяў.

Але найбольш зацягне адзенне дзелавога стылю для першакласніка. Калі купляць дарагія рэчы, то прыйдзецца аддаць 2 349 300 рублёў. Калі выбраць больш таннае, то 1 670 000 рублёў. Аднак трэба заўважыць, калі вы збіраеце ў школу хлопчыка, то атрымаецца танней. Са спіса трэба адкінуць сарафан, спадніцу.

**Агульная сума, якая вам спатрэбіцца, каб сабраць першакласніка, будзе залежаць ад памеру вашага кашалька – альбо 3 651 100 рублёў, альбо 2 334 000 рублёў.**

Летась сабраць першакласніка па танным варыянце каштавала 2 мільёны 900 рублёў. Танны варыянт быў 1 мільён 880 тысяч рублёў.

Падлічым, наколькі падаражэў першакласнік за год. Па дарагім варыянце – на 751 тысячу рублёў, па танным варыянце – на 454 тысячы рублёў. Летась першакласнік таксама "падаражэў" на мільён.

Канешне, цэны ў розных магазінах і на рынку будуць адрозніваца. Таму можа атрымацца так, што вам спатрэбіцца значна больш грошай на зборы першакласніка. А магчыма, вы знойдзеце больш танныя тавары.

Пішыце нам у газету альбо на сайт, як вы збіралі сваё дзіця ў першы клас, колькі аддалі на гэта грошай.

Падрабязную табліцу з цэнамі вы можаце паглядзець на сайце "Рэгіянальнай газеты".




**Галіна СІНІЦА.**

## У шэсць ці сем гадоў аддаваць дзіця ў школу?

У першую чаргу бацькам неабходна звярнуць увагу на фізічнае здароўе дзіцяці. Калі яно хварэла альбо нарадзілася неданошаным, то наўрад ці трэба аддаваць дзіця ў школу ў шэсць гадоў. Бывае, што дзіця выдатна спраўляецца з нагрузкай у пачатковых класах, але рэальныя праблемы наступаюць у пятым класе. Калі дзіця не гатовае ўспрымаць і апрацоўваць сур'ёзны матэрыял, а сілы на зыходзе.

Другі фактар – псіхічнае здароўе. Неабходна зразумець, ці ўседлівае дзіця, ці ўмее ўважліва слухаць.

Трэці фактар – сацыяльны. Трэба заўважаць, як дзіця будуе адносіны ў калектыве, ці трывожнае, наколькі стрэсаўстойлівае.

Каляндарны ўзрост – не паказчык псіхалагічнай падрыхтаванасці да школы.

### Шасцігодкі

"+" Дзеці адрозніваюцца жывым розумам, дапытлівыя, таму да школы адносяцца як да прыгоды.

"+" Хутчэй наладжваюць стасункі з аднагодкамі.

"+" Дзеці раней атрымліваюць атэстат, а значыць, будуць мець больш магчымасцяў паспрабаваць свае сілы на ўступных экзаменах у ВНУ.

"–" Няўседлівасць дзіцяці, няўважлівасць. Гэта можа зрабіць больш цяжкай адаптацыю дзіцяці ў калектыве. Дзецям цяжэй успрымаць матэрыял.

### Сямігодкі

"+" Дзеці лепш падрыхтаваныя да школы, больш уседлівыя.

"+" Лепш развітая дробная маторыка.

"+" Нервовая сістэма больш развітая, чым у шэсць гадоў.

"–" Дзіця можа "перагарэць": яно даўно ўмее чытаць, пісаць, лічыць, разважаць, таму яму можа быць сумна і нецікава на ўроках.

"–" Дзіця развітваецца са сваімі сябрамі, якія пайшлі ў першы клас у шэсць гадоў, а значыць, яму трэба будзе зноў адаптавацца ў новым калектыве, знайсці сяброў.

**Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг.**

МЕРКАВАННІ

# Прэстыж настаўніка трэба ратаваць тэрмінова

**Настаўнік нясе вучню ісціну, аб'ектыўную ісціну.**

Па гэтым чынніку статус і аўтарытэт настаўніка ў грамадстве павінны быць высокімі, як гэта было заўсёды. Было нават, калі перад настаўнікам здымалі шапку, а ў наш час штосьці змянілася.

"Спачатку было слова", слова настаўніка таксама спачатку. Сёння не заўсёды вераць настаўніку, шмат што падвяргаюць сумневу. Некаторыя бацькі, бабулі і дзядулі непрафесійна і неапраўдана спрабуюць нават умешвацца ў адукацыйны працэс, выказваюць сваё меркаванне пра адзнакі, не ведаючы іх нормаў і г.д. Гэта ўсё гаворыць пра тое, што статус настаўніка ў грамадстве не на належнай вышыні.

## Чаму ад добрых настаўнікаў залежыць наш дабрабыт

Зоркі запальваюць зоркі, шэрасць спараджае шэрасць. З прычыны нізкага статуса настаўніка, на жаль, вельмі рэдка лепшыя вучні, моцныя асобы выбіраюць прафесію педагога. Толькі моцная асоба, толькі вучань, які старанна вучыўся, можа стаць добрым педагогам.

Сёння маладыя людзі не вельмі ахвотна ідуць у педагогі, тлумачачы, што гэта прафесія патрабуе шмат нерваў, а аплачваецца нізка. Нярэдка здараліся недаборы ў ВНУ на педагагічныя прафесіі і нярэдка займалі гэтыя нішы абітурыенты, якія не змаглі больш нікуды паступіць. Калі абітурыент набраў адзін бал па фізіцы на ЦТ і паступіў на фізіка-матэматычны факультэт, то які з яго атрымаецца педагог? Такія выпадкі былі. А навучыць можна толькі таму, што сам умееш!

**У канцэртнай зале маладзечанскага Палаца культуры 21 жніўня пройдзе абласная педагагічная канферэнцыя, 26 жніўня – раённая.**

Дзе ж выйсце, калі кола замкнулася? Як зрабіць так, каб вярнуць давер грамадства да педагога, каб пайшлі ў педагогі самыя здольныя абітурыенты і ў выніку выйграла грамадства?

Цяперашні час – час прагматызму. Паказчыкам прызнання з'яўляецца зарплата. Цяжка вырашаць гэта пытанне, калі эканоміка свету і нашай краіны перажываюць не лепшы час. Гэта на першы погляд.

Гісторыя мае іншыя прыклады. Японія атрымала паражэнне ў Другой сусветнай вайне. Гэта было першае паражэнне Японіі за ўсю яе гісторыю, гэта быў шок для японцаў. Але яны не склалі рукі, зрабілі стаўку на веды і адукацыю. І ўжо праз дзесяць гадоў пачаўся японскі "эканамічны цуд". Сёння геакліматычнае становішча Японіі не цешыць, але яе эканоміка ў ліку лепшых у свеце, а японцы ставяць пытанне пра абавязковую вышэйшую адукацыю ў краіне.

## Як настаўнікі паменшаць колькасць разводаў

А што ж рабіць беларусам?

У Беларусі настаўніку трэба павялічваць зарплату. Гэта будуць найлепшыя інвестыцыі ў будучыню краіны. Не магу назваць дакладную суму, але я ведаю іншы рэцэпт. Зарплату педагогам трэба павялічваць, пакуль у педагогі не пойдуць мужчыны. Менавіта гэта прыкмета прэстыжнасці.

Рашэнне праблемы будзе мець і іншы вынік. Сёння Беларусь сярод лідараў па разводах. Як правіла, дзеці застаюцца з маці. Сыны па аб'ектыўных прычынах атрымліваюць "жаночае" выхаванне. Затым прыходзяць у школу і зноў атрымліваюць жаночае выхаванне, бо сёння мужчын сярод педагогаў каля 10%. Затым яны становяцца бацькамі, якія не бачылі мужчынскага выхавання, што прыводзіць да чарговага разводу.

Гэта заганнае кола павінна быць разарванае. У адзін час, калі ў Фінляндыі колькасць мужчын-педагогаў пачала валіцца ніжэй за 50%, грамадства захвалявалася і пачало выпраўляць сітуацыю.

Прырода стварыла мужчынскія і жаночыя расліны, мужчынскія і жаночыя асобіны жывёл, людзей мужчынскага і жаночага полу. Яны не могуць існаваць адзін без аднаго. Толькі ў іх сумесным існаванні знаходзіцца гармонія.

**Валерыян ГАЙДУЛЬ, настаўнік вышэйшай катэгорыі, Маладзечна.**



На выставе паказваюць рэканструкцыю паходнай царквы. Фота забяспечана Андрэем КАРКОТКАМ.

ВЫСТАВЫ

# Пабыць у паходнай царкве і ўбачыць 100-гадовы кубачак

ВІЛЕЙКА

**Усё гэта можна зрабіць на выставе ў Вілейскім краязнаўчым музеі. Яна – працяг шырокамаштабнага выставачнага праекта "Дзве вайны – памяць адна". Першая частка прысвячаецца 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Гэта ж – 100-годдзю вызвалення Вілейкі ў верасні 1915 года.**

Галоўны акцэнт ў выставе зроблены на бой за Вілейку. Асобны блок прысвечаны генералу ад інфантэрыі **Дзмітрыю Баланіну**, які апісаў гэты бой.

– Ён не толькі палкаводзец, але і пісьменнік. Вельмі часта друкаваўся ў "Ваенным зборніку". У нумары 10 за 1916 год надрукавалі яго артыкул "Вілейка. Бой 10 верасня 1915 года", – расказвае старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава.**

У экспазіцыі ўдзялілі ўвагу не толькі салдатам і афіцэрам, якія вызвалялі Вілейку, а і ваявалі па ўсёй Вілейшчыне. Змешчаныя іх фотаздымкі, прыводзіцца апісанне подзвігаў воінаў, якія сталі георгіеўскімі кавалерамі.

Ёсць фотаздымкі землякоў-удзельнікаў Першай сусветнай. Напрыклад, маці віляйчаніна **Барыса Манцэвіча.** У вайну на Пастаўшчыне немцы падпалілі мост праз раку. Дзяўчына разам са святаром мост патушыла, за што яе ўзнагародзілі георгіеўскім медалём "За храбрасць". На фотаздымку яна якраз з гэтым медалём.

Прыцягваюць увагу арыгінальныя вырабы, што майстравалі салдаты ў вольную хвіліну. Гэта рамка для партрэта з гільзаў, кубачак, зроблены з гільзы з-пад снарада. Рускі салдат пакінуў на кубку аўтограф і надпісы "Въ дни Революцiи", "Земля и Воля", "Въ память Войны 1914-15-16-17 гг".

Дзяцей больш за ўсё цікавяць манекены, апранутыя ў рэканструяваную форму салдата і строй сястры міласэрнасці. А на адным з манекенаў – башлык і гімнасцёрка, якія засталіся з той вайны. Іх захоўвалі родныя **Варфаламея Дубягі** ў вёсцы Ляда Іжанскага сельсавета і перадалі ў музей.

## Да паходнай царквы

Напрыканцы экспазіцыі наведнікаў чакае рэканструкцыя паходнай царквы. За аснову ўзятая царква, якая была ў месцы базіравання рускіх часцей каля вёскі Мішуты (цяпер Нарочскі сельсавет). Наведнікаў сустракае вялікі банер з фотаздымкам 1916 года, рыза святара, абраз св. Георгія Перамаганосца, лампада.

– Заўсёды там, дзе салдаты, была паходная царква. Роля святара была вельмі важная, – кажа Вольга Коласава. – Як успамінаюць, выстройваліся цэлыя чэргі святароў, каб трапіць на фронт. Туды бралі не ўсіх, а самых дужых і каб ведалі медыцыну. Каб маглі не толькі адпяваць, але калі што, аказаць першую медыцынскую дапамогу.

Расказваецца пра протаіерэя **Паўла Сасноўскага**. Ён служыў у Нароцкай царкве больш за 40 год. І ў летапісе Свята-Ільінскай царквы ў Нарочы падрабязна апісаў падзеі Першай сусветнай вайны.

– Калі тэма Вялікай Айчыннай вайны больш вядомая і вывучаная, то Першая сусветная доўгі час была забытая. Прадстаўленыя на выставе фотаздымкі і дакументы, звесткі, што расказваем на экскурсіях, – для многіх гэта ўсё новае, – кажа Вольга Коласава. – Многіх гэта тэма ўзрушыла. Людзі пачалі задумвацца: "А мо прадзед быў удзельнікам Першай сусветнай?" Шукаюць фатаграфіі у сямейных архівах, распытваюць.

У выніку ў музей перадаюць дакументы і здымкі. Праўнук ураджэнца Рускага Сяла даслаў з Гродна фатаграфію самалёта маркі "Лебедзь". Базіраваўся 22 авіяцыйны атрад у раёне Рускага Сяла і Любані. Яго прадзед быў мабілізаваны і абслугоўваў самалёты. Таксама даслаў яшчэ фота аднаго прадзедаўдзельніка вайны.

Экспазіцыя будзе папаўняцца. І калі хто яшчэ захоча падзяліцца цікавымі экспанатамі Першай сусветнай, у музеі будуць толькі ўдзячныя.



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by

СВЯТЫ

# Рыцарскія гульні, хадзьба на хадулях – на Ашмяншчыне пройдзе фестываль "Гальшанскі замак"

АШМЯНЫ

29 жніўня ў Гальшанах пройдзе фестываль "Гальшанскі замак".

Ад 11:00 да 20:00 будуць працаваць разнастайныя пляцоўкі. Сярод іх "Горад майстроў", на якой можна паўдзельнічаць у майстар-класах. Будуць дзіцячыя атракцыёны. На пляцоўцы "Іпадром" будзе рыцарскі лагер, лагер лучнікаў і коннікаў, ахвотныя могуць пакатацца на конях.

Ад 17:00 да 19:00 можна паглядзець рыцарскія гульні і паказальныя выступленні клуба славянскіх адзінаборстваў "Арыдан". У гэты ж час пройдуць майстар-класы па хадзьбе на старадаўніх хадулях.

**11:00-13:00** – пляцоўка "Цэнтральная плошча" ў Гальшанах.

**11:00** – мерапрыемства ў гонар 735-годдзя Гальшанаў.

**12:00** – тэатралізаванае шэсце да руін былога замка **Сапегаў**.

**12:10** – святочны канцэрт (руіны былога замка Сапегаў).

**12:30-22:30** – пляцоўка "Цэнтральная сцэна".

**12:30** – тэатралізаваны пралог "Фестываль вітае гасцей".

**13:00** – шоу тэатра "Вір" па карціне **Іеронімa Босха**.

**13:30-17:00** – пляцоўка "Рыцарскі стан".

**13:30** – конны турнір (кіданне дроту на галопе, сячэнне мячом капусты і яблыка, нанізванне кольца на дзіду, падняцце хусткі з зямлі дзідай, з шыбка на конях).

**14:30** – бугурты (масавыя бітвы рыцараў).

**16:00** – тэатралізаванае коннае шоу "Гісторыя рыцара".

**16:30** – турнір лучнікаў.

**17:00** – майстар-клас па сярэднявечных танцах.

**18:00** – канцэрт Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.

**20:00** – канцэрт старадаўняй і сучаснай музыкі.

**22:00** – агнявое прадстаўленне вулічнага тэатра "Вір".

Паводзе афіцыйнага сайта Ашмянскага райвыканкама. Дзецям да пяці год уваход платны.

**Аддзел інфармацыі.**

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

## "Вілейскія жартачкі" пройдуць на Віллянін дзень

ВІЛЕЙКА

Па традыцыі напрыканцы жніўня ў Вілейцы праводзіцца свята ў Віллянін дзень. Сёлета на Вілляніным хутары 29 жніўня пройдзе конкурс "Вілейскія жартачкі".

Гэта конкурс тэатралізаваных або тэатральных пастановак на тэмы беларускіх казак, прымавак і прыказак.

У ім прымуць удзел творчыя групы і сем'і, тэатральныя калектывы. Заяўкі на ўдзел працягваюць паступаць, расказала мастацкі кіраўнік Вілейскага палаца культуры **Аляксандра Лапацкая**.

**Аддзел інфармацыі.**

## "Нарачанскі набат" пройдзе з канцэртам і рэканструкцыяй

МЯДЗЕЛ

У другі раз на Мядзельшчыне пройдзе ваенна-гістарычная рэканструкцыя "Нарачанскі набат-2015". Гэтым разам яна прымеркаваная да 100-годдзя ўстанаўлення лініі фронту на Мядзельшчыне ў часы Першай сусветнай вайны.

Сёлета ў рэканструкцыі плануюць удзельнічаць прадстаўнікі ваенна-гістарычных клубаў не толькі з Беларусі, а і Расіі. Пройдзе яна ля вёскі Пасынкі, на вышыні 217.

Ад 14 гадзін запрацуюць гандаль і рамеснікі, пройдзе канцэртная праграма. Ваенна-гістарычная рэканструкцыя пачнецца ў 16 гадзін.

Да фестывалю пусцяць аўтобус з цэнтра Мядзела і аўтавакзала "Нарач". Адпраўленне ў 15:10.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Паўдзельнічаць у японскай чайнай цырымоніі можна ў Ашмянах

АШМЯНЫ

21 жніўня ў 14:00 у чытальнай зале Ашмянскай раённай бібліятэкі адбудзецца дэманстрацыя японскай чайнай цырымоніі.

У традыцыйнай цырымоніі будзе ўдзельнічаць кіраўнік інфармацыйнага цэнтра японскай культуры ў Мінску Масака Тацума і члены яе сям'і, жыхары Японіі.

**Паводле osh.by.**

ЗДАРЭННІ

# На Вілейшчыне шукалі жанчыну – знайшлася ў сваякоў

ВІЛЕЙКА

У пятніцу, 14 жніўня, мінчанка прыехала на лецішча на Вілейшчыне. Але пасля спрэчкі сышла з дому.

Родныя спахапіліся і ў той жа дзень заявілі ў міліцыю аб яе знікненні.

Супрацоўнікі Вілейскага РАУС пачалі праверку. Па іх просьбе мінскія праваахоўнікі выязджалі па месцы жыхарства жанчыны і па адрасах, дзе яна можа быць. Знайшлі яе ў сваякоў у сталіцы.

Падобныя выпадкі нярэдкія.

– Мы ніколі і ні ў якім разе не адмаўляем у дапамозе, – кажа намеснік начальніка РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык.** – Аднак заўсёды лепш адразу самім праверыць усе месцы, дзе можа знаходзіцца ваш родны чалавек, патэлефанаваць усім яго знаёмым. І толькі пасля гэтага звяртацца ў міліцыю.

**Аддзел інфармацыі.**



Жанчына пасварылася і сышла з дому. Яе шукала міліцыя.

НАВІНЫ РЭГІЁНА

## Закрыюць дзве школы на Вілейшчыне, на Маладзечаншчыне і Ашмяншчыне – дзіцячыя садкі

Сёлета ў рэгіёне закрыюцца дзве школы ў Вілейскім раёне. Сярод іх Латыгальская базавая школа, Бубнаўскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы садбазавая школа.

У Маладзечанскім раёне закрыецца Сасноваборскі дзіцячы сад.

На Ашмяншчыне закрыюць яслі-сад у вёсцы Семернікі. У склад цэнтра творчасці і моладзі ўвойдзе цэнтр турызму і краязнаўства.

Пра гэта паведамілі ў аддзелах адукацыі спорту і турызму.

**Аддзел інфармацыі.**

## На Маладзечаншчыне разбіліся грамадзяне Кітая

МАЛАДЗЕЧНА

Адбылося гэта каля дзевяці гадзін раніцы 13 жніўня паблізу вёскі Хоўхлава Маладзечанскага раёна.

28-гадовы грамадзянін Кітая кіраваў аўтамабілем "Шаўрале-Ніва". Мужчына не справіўся з кіраваннем, машына выехала за межы праезнай часткі і ўдарылася ў дрэва.

У выніку кіроўца змешчаны ў бальніцу. З ім ехаў 29-гадовы суайчыннік. Ён загінуў. Абодва жылі ў вёсцы Міхалішкі Астравецкага раёна (маюць дазвол на часовае пражыванне).

**Паводле МУС Беларусі.**

## Маладзечанскі раён – на другім месцы па беспрацоўі на Міншчыне

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ, ВАЛОЖЫН

Паводле справаздачы Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Мінскай вобласці ўзровень зарэгістраванага беспрацоўя на канец чэрвеня на Міншчыне складаў 0,8%.

На другім месцы пасля Жодзіна ў вобласці – Маладзечанскі раён. Тут узровень беспрацоўя – 1,8% (колькасць беспрацоўных 1107).

У Вілейскім раёне – 1,4% (278 чалавек). Беспрацоўных за год тут стала ў тры з паловай разы больш.

На Мядзельшчыне ўзровень беспрацоўя складае 0,8% (103 чалавекі). У Валожынскім раёне – адзін з найніжэйшых паказчыкаў у вобласці – 0,4% (54 чалавекі).

**Аддзел інфармацыі.**

## Белтэлекам падоўжыў тэрмін аплаты за хатні тэлефон і інтэрнэт

Ад 25 жніўня РУП "Белтэлекам" змяняе правілы аплаты за тэлефон і інтэрнэт.

Паводле новых правіл, абаненцкую плату за бягучы месяц трэба ўносіць не пазней за 1-е чысло наступнага месяца.

Раней рахункі за тэлефон і інтэрнэт трэба было аплачваць да 25-га чысла.

**"Наша Ніва", паводле БелТА.**

## На Астравеччыне мужчына атруціўся грыбным супам

АСТРАВЕЦ

Жонка зварыла суп з лісічак, якім атруціўся муж. Сама жанчына страву таксама ела, але ніякага нядужання не адчула.

Першы выпадак атручэння грыбамі ў Гродзенскай вобласці за гэты год адбыўся ў Астравецкім раёне. 23-гадовага хлопца шпіталізавалі ў райбальніцу, дзе ён правёў тыдзень. Прычым грыбы ён збіраў сам і ўпэўнены, што яны былі нармальныя. Хутчэй за ўсё, была парушаная тэхналогія прыгатавання або захоўвання грыбоў, мяркуе загадчыца аддзялення гігіены харчавання Гродзенскага абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя **Марыя Руфкіна**.

**Юлія БЫК, "Вячэрні Гродна".**



Фота забяспечана Леанідам ПОСАХАВЫМ.

Экіпаж танкера "Алекма" ў Балтыйску, пасля вяртання з рэйса. 1971 год. Другі справа сядзіць Леанід Посахаў.

УСПАМІНЫ

# Паход па Атлантыцы, які прывёў да медаля

МАЛАДЗЕЧНА

**Свой бартавы журнал ён распачаў у красавіку 1970 года ў порце Балтыйск. Пра паход на борце танкера "Алекма" піша маладзечанец Леанід Посахаў.**

## Выходзім з гавані

Наш электронік Андроніч разбудзіў мяне ў 4:00 раніцы са словамі "заступай на вахту". Мне 23 гады, я працую на танкеры "Алекма".

У 8:30 мы пойдзем у Паўночную Атлантыку. Па ўказанні старшага механіка я прыбіраю берагавы кабель, мне дапамагаюць яшчэ двое электрыкаў. Кабель на борце.

Да нас падыходзіць невялікі катар з мытнікам на борце, які даў права заходзіць у замежны порт. З гэтага моманту ніводны чалавек не мае права ні зайсці на параход, ні выйсці з яго. Я распісаўся ў мытнай дэкларацыі і здаў пашпарт марака другому штурману.

З тых, хто нас праводзіў, былі толькі двое – жонка аднаго з хлопцаў і мой сябар Генка з Маладзечна, з якім мы працавалі на станкабудаўнічым заводзе.

## Аўрал

У 9:30 іграюць аўрал. У гэты час я павінны выходзіць на бак, насавую частку прахода. Два буксірныя судны выцягваюць нас з цеснай гавані.

Наш капітан **Аляксандр Міхайлавіч Рэзнікаў** дае на развітанне з зямлёй шэраг працяглых гудкоў. Побач два судны, што нас буксіравалі, – "Сярдзіты" і "Сатурн". "Сярдзіты" падымае сцягі, а капітан "Сатурна" праз мегафон жадае нам шчаслівага плавання і сем футаў пад кілем. Гэта сапраўднае марское пажаданне. Наш капітан дзякуе праз мегафон, і мы ідзём у рэйд.

Аўрал працягваецца. Тут мы чакаем ваенныя караблі. Трэба разам з імі адпрацаваць перадачу на борт для іх паліва і вады.

У 11 гадзін да нас падыходзіць вялікі супрацьлодачны карабель (ВСК). Мы ідзём малым ходам, каб перадача праходзіла пры найбольшай магчымасці манеўравання. Шлангі прыгатаваныя. З ВСК падаюць кідальны канец, на карму яго прымацоўваюць за шланг маракі з гэтага карабля, цягнуць яго да сябе на борт. На братпіле я траўлю капронавы трос, злучаны са шлангам. Усімі людзьмі праз радыё камандуюць капітаны абодвух караблёў. Імітуем ім падачу паліва, аперацыя па "запраўцы" аднаго карабля праходзіць паспяхова. ВСК адпраўляецца ў дарогу. Нам яшчэ трэба перадаць яму паліва на вучэннях у Атлантыцы.

Мора спакойна плешчацца па бартах нашага цеплахода. Хутка да нас падыходзіць другі ваенны карабель – дэсантны карабель (ВДК). З запраўкай ВДК мы робім такую аперацыю, як і з ВСК. Капітаны дзякуюць адзін аднаму за паспяховую праведзеную аперацыю, жадаюць шчаслівага плавання на прасторах мораў і акіянаў, і мы ідзём далей.

## Курс – мыс Скаген у Даніі

8 красавіка. Мы ідзём уздоўж берагоў Даніі. Вузкай палоскай цягнецца зямля. Мора спакойнае – поўны штыль. Ярка, па-вясенняму свеціць сонца, маленькія хвалі, не спяшаючыся, набягаюць на параход. Зямля ад таго, што далёка, мае дымчаты выгляд. Але тым не менш усё добра бачна. Я выразна бачу домікі з чырвонай чарапіцай. Белы маяк, які выразна вылучаецца дзякуючы сваёй велічыні, і іншыя невялікія пабудовы. Бачны невялікія пералескі, потым ці то поле, ці то ралля.

Мы ідзём па праліву Зунд. Гэта самы вузкі праліў на выхадзе ў Паўночнае мора, яго шырыня прыблізна роўная тром мілям. З аднаго боку бачны шведскі горад Мальмё. З другога боку – дацкі горад. З боку Швецыі бачныя прамысловыя пабудовы, руднікі. Далей ідзе сам горад. Мы праходзім міма знакамітага ў Даніі Шэкспіраўскага замка, ён стаіць на самым узбярэжжы і далей ад іншых пабудоў, уражвае ўзаецца ў мора. Па паданнях, менавіта тут геніяльны Шэкспір напісаў сваю трагедыю "Гамлет". Бачныя шматлікія шпілі замка. Увогуле ўсе гарады Даніі ўсеяныя вастраканечнымі шпілямі. Праходзячы зусім блізка, мы фатаграфуем Шэкспіраўскі замак. Паміж двума гарадамі Мальмё і Хельсінборг пастаянна курсуюць вялікія паромы. На ўсёй працягласці марскіх межаў, паміж Даніяй і Швецыяй, ходзяць гэтыя камфортныя паромы. Здалёк яны здаюцца непрыгожымі, нагадваюць нейкую глыбу альбо айсберг, але, убачыўшы іх бліжэй, гэтага нельга сказаць.

## Самалёт ФРГ

Было прыкладна 14 гадзін дня, я быў вольны ад вахты і знаходзіўся ў каюце, зрэдку выглядаў у ілюмінатар і любаваўся морам. Аднойчы, калі я глядзеў у ілюмінатар, пачуў дзіўны гул, ён набліжаўся. Я пастукаў ў перагародку суседній каюты і адтуль у імгненне вока выглянула лысая галава нашага качагара Марозава. Мы ўбачылі ярка-чырвоны, у перамешку яшчэ з нейкім колерам, нямецкі самалёт (ФРГ).

Леанід ПОСАХАЎ,
Маладзечна.
Працяг будзе.

КАЛЯНДАР

### 22 ЖНІЎНЯ

**1861 год.** Нарадзіўся Ігнат Буйніцкі, акцёр, рэжысёр, пачынальнік беларускага нацыянальнага тэатра.

### 24 ЖНІЎНЯ

**1906 год.** Нарадзіўся Юльян Саковіч (фальв. Баўдыры Ашмянскага павета Віленскай губерні, цяпер Смаргонскі раён), беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Яго асоба дагэтуль ахутаная таямніцамі... Нарадзіўся ў заможнай сялянскай сям'і. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Вучыўся на аграрнамічным факультэце ў Віленскім універсітэце. Быў звязаны з камуністычным падпольным рухам, за што пераследаваўся польскімі ўладамі. Быў членам Беларускага студэнцкага саюза, КПЗБ, Таварыства беларускай школы (ТБШ). У 1928 выключаны з Беларускага студэнцкага саюза за камуністычную прапаганду. У лютым 1933 на працэсе над кіраўніцтвам ТБШ прыгавораны да трох гадоў турмы. Напярэдадні Другой сусветнай вайны арыштаваны і зняволены ў Бярозе-Картузскі канцэнтрацыйны лагер. У верасні 1939 вызвалены, вярнуўся на Віленшчыну, дзе арыштаваны органамі НКВД, але цудам застаўся жывы. З прыходам немцаў на яго распачынае паляванне польская паліцыя, якая была на службе ў акупантаў. Юльяну Саковічу нейкім цудам удалося вырвацца з яе рук і ўцячы ў Мінск. У перыяд нацысцкай акупацыі Беларусі займаў пасады начальніка аддзела Беларускай народнай самапомачы (БНС). Адзін з кіраўнікоў канспірацыйнай Беларускай незалежніцкай партыі. Неаднаразова пратэставаў перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі супраць знішчэння мірных жыхароў і палення вёсак, чым моцна настроіў супраць сябе нямецкія эсэсаўскія ўлады. У выніку яго высылаюць у Ліду на становішча акруговага старшыні БНС. Польскае падполле апаратыўна даведалася пра прыезд Саковіча і прысудзіла да смерці. Немцы ведалі, што жывым Саковіч адтуль не вернецца і, такім чынам, чужымі рукамі знішчалі аднаго з правадыроў беларускага падполля. 13 чэрвеня 1943 года ён быў забіты.

### 26 ЖНІЎНЯ

**1933 год.** Выйшла пастанова Савета Народных Камісараў БССР "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу", скіраваная на знішчэнне адметнасці беларускай мовы.

Падрыхтавала
Марыя БЕРАСНЕВА.



Вераніка Якушык прызнаецца, што з Сяргеем яна, сапраўды, адчувае сябе ЗА МУЖАМ. Ён для Веранікі і муж, і брат, і сябар.

Фота Наталлі ТУР.

# “Усе дзяўчаты мараць, каб іх насілі на руках, а я хачу хадзіць сама”

МАЛАДЗЕЧНА

**Вераніка і Сяргей Якушыкі з вёскі Дубрава адсвяткавалі вяселле 8 жніўня.**

Сяргею 25 гадоў, Вераніцы – 22. Да гэтага былі тры гады сустрэч, узаемнага кахання і рамантыкі.

**І толькі неасцярожныя заўвагі сяброў Сяргея: “Ну куды ты лезеш? Гэта ж цяжар на ўсё жыццё!” псавалі настрой Вераніцы.**

Але ненадоўга, бо гэтая маленькая кволая дзяўчо – зарад аптымізму і пазітыву. Яна цвёрда ведае, што свайго шчасця не саступіць нікому і яе інвалідны вазок тут зусім не пры чым...

– Мы пазнаёміліся з Сяргеем на сайце знаёмстваў, – пачынае распавед Вераніка, – і я адразу прызналася яму ў тым, што не магу хадзіць.

Сяргея гэта не засмуціла, і праз месяц перапіскі ён прапанаваў Вераніцы сустрэцца.

– Вераніка мне адразу спадабалася і знешнасцю, і характарам.

Тры гады Сяргей, а ён жыў у Пралесках, штодзень пяць кіламетраў хадзіў да Веранікі ў Дубрава, каб правесці разам час.

– А бывала і не раз. Зімой прыходзіў раніцай, каб прапаліць ёй у печы, потым ехаў на работу. Вечарам зноў да Веранікі, бо яна тэлефануе і кажа: “Мне сумна”. Мусіў выбірацца з-пад коўдры і ісці да яе.

– А аднойчы Сяргей доўга не здымаў трубку. Ну, я і вырашыла пайсці да яго. Усе пяць кіламетраў “ішла” адна.

Праз чыгуначны пераезд мне перайсці дапамаглі. Прыйшла да яго, грукаюся ў брамку акулярамі. Сяргей адчыняе, і я толькі па вуснах яго прачытала, што ён вылаяўся на мяне. Спужаўся моцна.

– Вядома, спужаўся. Ну, як можна было так зрабіць, нікога не папярэдзіць? Мама Веранікі наогул ледзьве прытомнасць не страціла, калі дачкі дома не знайшла. Я ж баюся за цябе, – звяртаецца Сяргей да Веранікі.

## Са свекрывёй я да сёння незнаёмая

Пасля вяселля Сяргей перабраўся жыць у Дубрава, да Веранікі і сваёй цешчы. У Веранікі яшчэ ёсць малодшы 16-гадовы брат, але ён цяпер жыве ў Мінску, вучыцца ў каледжы.

**– Як прыняла цешча?**

– Добра. Яна не ўмешваецца ў наша жыццё. Адразу сказала, што галоўнае, каб вам было добра.

**– А ў вас, Вераніка, як адносіны са свекрывёй?**

– Я з ёй яшчэ незнаёмая. Мы запрашалі на вяселле, але яна паехала ў Італію да Сяргеевай сястры.

Вераніка прызнаецца, што сама зрабіла Сяргею прапанову рукі і сэрца. Сяргей тады адмаўчаўся. А праз некаторы час за вячэрай сказаў маці Веранікі: “ Мы вырашылі пярсцёнкі купіць”.

**– А сварыліся з Веранікай?**

– Бывала. Я тады моўчкі сыходжу курыць на двор. Але і мірыцца першым прыходжу.

Пра дзяцей маладыя яшчэ не думаюць.

– Мы яшчэ маладыя, пажывём для сябе, а потым, вядома, – кажа Вераніка.

– Але не больш за аднаго! – дадае Сяргей.

## Вераніка марыць працаваць дыспетчарам таксі і кіраваць машынай

– Я адчуў, што штамп у пашпарце рэальна нешта мяняе ў адносінах. Цяпер адчуваю вялікую адказнасць, – кажа Сяргей.

– Ага, – дадае Вераніка, – і разам са штампам знікла рамантыка. Раней мы з Сяргеем маглі гуляць некалькі гадзін. Ён сам прапаноўваў схадзіць на мясцовае возера, а цяпер кажа: “Ай, навошта куды хадзіць, давай дома пабудзем”.

Калі заляцаўся да Веранікі, аднойчы прынёс цэлую жменю завушніц:

– Мяне прадавачка ў магазіне пытаецца: “Якія паказаць?” А я ёй: “Давайце ўсе, хай нявеста сама выбірае”.

Сяргей працуе мантажнікам у Мінску на заводзе, але і па доме ўсе абавязкі ўзяў на сябе.

– А я гатую ежу, – кажа Вераніка. – Толькі пакуль пірагі не ўмею, я ж маладая жонка. Сяргей у мяне працаголік. Ён і па доме з усім упраўляецца, і каля ўвахода ў дом вяргіні пасадзіў.

А Вераніка пакуль толькі марыць атрымаць прафесію, каб прыносіць карысць людзям. Пасля школы Вераніка нікуды вучыцца не паступала. Думала быць псіхолагам.

– Не так даўно вырашыла ўладкавацца дыспетчарам у таксі. Адразу сказала, што не хаджу, а так у мяне ўсё ў парадку. І манеры, і голас, і гаворка правільная. І мне каторы час ужо кажуць:ператэлефануйце праз два тыдні. І быццам не адмаўляюць, але і на работу браць не хочуць.

– Мяне крыўдзіць гэта, – працягвае Вераніка. – Бывае, рукі апускаюцца. (Вераніка закочвае вочы, каб не заплакаць). Але як успомню, што некалькі разоў маё жыццё было на ніточцы, цаню кожнае імгненне.

А не так даўно Вераніка даведалася, што ў Мінску з'явілася аўташкола для інвалідаў.

– Вельмі хачу сама кіраваць, каб не залежаць ні ад каго. Без машыны ў Дубраве нельга. Аўтобус ходзіць двойчы на дзень. А зімой, бывае, не прыходзіць увогуле. Я па натуры авантурыстка. Вось на вяселлі сама папрасіла сваяка Сяргея скрасці мяне. Ён спытаўся: сама ў машыну сядзеш? Я села.

**Сяргей заўважыў толькі тады, калі машына ад'язджала ад школы, дзе было вяселле. На хаду заскочыў у машыну і закрычаў: “Нікому не аддам!”**

А на 9 Мая папрасілі сяброў Сяргея адвезці нас у Мінск на парад. За дзве гадзіны сабраліся, яны за намі заехалі.

**– Аднаго Сяргея адпускаеце гуляць з сябрамі?**

– Ён не просіцца. Мы з Сяргеем знайшлі адзін аднаго. Ён адзіночка, я таксама. У дзяцінстве былі яшчэ сяброўкі, а як сталі падлеткамі, пачалі на дыскатэкі ў Мінск ездзіць, нашто ім я? Таму вельмі шчаслівая, што ў мяне ёсць Сяргей. Ён мне і муж, і лепшы сябар.

У бліжэйшых планах маладой сям'і разам выбрацца на адпачынак.

– Вельмі хочацца ў Італію, але мне на самалёце лятаць нельга, – кажа Вераніка. – Сяргей запэўнівае, што можна знайсці спосабы туды з'ездзіць. Каб вы ведалі, як хочацца самастойнасці! Але я разумею, што хадзіць не буду ніколі. Магчыма, каб раней хадзіла, а потым не змагла, гэта было б яшчэ больш балюча. А так я іншага жыцця не ведаю. Прывыкла.

Вераніка робіць паўзу і глыбока ўздыхае:

– Ды і нашто мне тая Італія! Я ведаю, што рай мне Сяргей створыць і ў Дубраве.

**– Сяргей у літаральным сэнсе носіць на руках?**

– Так. Але я многае аддала б за тое, каб не насіў...



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

# “Ідзі і думай, куды яму стукне павярнуць”

## Небяспечная язда на ровары прыводзіць да сур’ёзных траўмаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладая мама Маргарыта Зотава любіць гуляць з чатырохмесячным Ванем у калясцы па пешаходнай вуліцы Прытыцкага. Ціха, спакойна, няма машын. Адно, што хвалюе, – паводзіны асобных раварыстаў:**


Фота bymedia.net.

Неабачлівыя раварысты могуць прычыніць траўмы і іншым, і сабе.

– Тут і ў парку носяцца жудасна, немагчыма прайсці. Навушнікі ў вушы ўторкнутыя, акуляры на нос – і не чуюць, і не бачаць нікога. А ты ідзі і думай, куды яму стукне павярнуць. Неяк мужчына год 35-ці на хуткасці паварочваў на ровары так, што збіў маладую мамачку – яна з каляскай пераходзіла да Беларусбанка. Таксама на роліках моладзь хутка рассякае.

Ды звычайнай, хоць і хуткай, яздой раварысты ўжо не абмяжоўваюцца:

– Ехалі да вакзала два раварысты на горніках. Прычым адзін з іх сядзеў на перакладзіне, трымаўся за руль другога. А той трымаўся за плечы сябра, – прыгадвае Маргарыта. – Калі б яны ў каго ўрэзаліся, то пераляцелі б праз сябе і гэтыя двое, і тыя, хто трапіўся ім на шляху. Тут ім добра ездзіць, няма машын. А пра людзей не думаюць. За парушэнне ім што? Штраф, можа, заплацяць, і далей так ездзіць будуць. А ты хадзі і торгайся ад кожнага шуму ззаду. Бо калі горнік сутыкнецца з чалавекам, сінякамі не абыдзецца ...

### Аж да пераломе ключыцы

Чым можа закончыцца падобная манера язды, Маргарыта адчула на прыкладзе сваёй сям’і.

Увечары 11 жніўня ля ўвахода ў парк сутыкнуліся два раварысты: юнак і яе бацька. У выніку бацька зламаў ключыцу і ўдарыў галаву. Цяпер лячэнне і рэабілітацыя зойме доўгі час.

– Юнак пакінуў свой нумар тэлефона. Неўзабаве патэлефанаваў, папрасіў прабачэння. Бацька яму дараваў. Бо ад таго, што хлопец будзе пакараны, у таты ключыца хутчэй не зажыве, – кажа Маргарыта. – Спадзяёмся, што хлопцу будзе ўрок на будучыню, што трэба быць абачлівым, не насіцца на хуткасці на ровары. А вось іншыя ці хутка зразумеюць гэта?

### Перш за ўсё – падвучыце правілы

Удзельнік маладзечанскага веларуху **Аляксандр Кісель** і сам хутка ездзіць на ровары:

– Але вялікі стаж кіравання аўто дапамагае прадугледзець небяспечныя моманты. Бачу маму з дзіцем, які ў любы момант можа пабегчы мне пад колы, або еду каля прыпынку, з-за якіх можа нечакана хтосьці выйсці. У такіх сітуацыях выбіраю хуткасць, пры якой змагу спыніцца імгненна.

Пажылых людзей і дзяцей, якія могуць напалохацца, аб’язджаю падалей. Непрадбачлівая носяцца толькі падлеткі. Я часта езджу з людзьмі свайго ўзросту, ніхто не рызыкуе.

Велааматар **Аляксандр Блазняк** ведае, чаму некаторыя раварысты носяцца па пешаходных дарожках і вуліцы:

– Ровар – не толькі транспарт, гэта яшчэ і сродак для адпачынку, а для многіх – актыўнага адпачынку.

А дзе насіцца, калі ў горадзе для гэтага няма ні выдзеленых пляцовак, ні веладарожак – ніякай інфраструктуры, – лічыць ён. – З кожным годам ровараў усё больш на вуліцах, таму і здарэнні з іх удзелам усё часцей. Трэба прывучаць са школы да правілаў дарожнага руху, праводзіць з удзелам ДАІ конкурсы на веданне гэтых правілаў: як для раварыстаў, так і для іншых таксама.

**Парады раварыстам ад Аляксандра такія: – Перш за ўсё – падвучыце правілы. А як сябе весці, павінны вучыць бацькі, інакш давядзецца вучыцца на ўласных памылках.**

### Якая адказнасць

– Ездзіць на роварах па пешаходных дарожках не забаронена, і хуткасць жа іх не памераеш. Адзінае: раварыст павінны ехаць так, каб не перашкаджаць руху пешаходаў і не здзейсніць на іх наезд, – тлумачыць дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага ДАІ **Сяргей Бартош**. – Іншая справа, што калі раварыст здзяйсняе наезд на пешахода або іншага раварыста. Можна прыцягнуць яго да адказнасці па артыкуле 18.23 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

А ў прэсе паведамлялі пра выпадкі ў Беларусі, што ў адносінах да раварыстаў нават узбуджалі крымінальныя справы за прычыненне пешаходам цяжкага ці менш цяжкага цялеснага пашкоджання па неасцярожнасці.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Правілы хуткай і адносна бяспечнай язды побач з пешаходамі ад Аляксандра Кісяля:

**1. Ні ў якім разе** нельга хутка ехаць, калі:

а) ёсць дзеці, якія гуляюць на адлегласці менш за дзесяць метраў ад вашай меркаванай траекторыі руху. Альбо зніжаем хуткасць, альбо мяняем сваю траекторыю падалей ад дзяцей. У першым выпадку, чым бліжэй дзеці, тым меншай павінна быць хуткасць. І трэба быць гатовым да экстраннага тармажэння абодвума тармазамі.

б) калі вы едзеце блізка ад аўтобуснага прыпынку. З-за прыпынку ў любы момант можа выйсці чалавек. Чым далей можна ехаць ад прыпынку, тым вышэй можа быць хуткасць.

в) бліжэй за пяць метраў да вашай траекторыі руху ідзе п’яны чалавек ці некалькі. Траекторыя іх руху можа быць хаатычнай і непрадказальнай.

г) бліжэй за тры метры ад вашай траекторыі руху ідзе пажылы чалавек. Сардэчны приступ ад хуткага праезду вельмі блізка можа быць на вашым сумленні.

в) ідзе група людзей і месца для іх аб’езду менш за тры метры. Майце на ўвазе, што людзі ў групе могуць рэзка змяняць сваю траекторыю руху, і чалавек можа апынуцца на вашым шляху якраз тады, калі вы захочаце гэтую групу аб’ехаць.

**2. Чым бліжэй праязджаем** міма пешахода, тым ніжэй павінна быць наша хуткасць, каб не спалохаць чалавека і не закрануць рулём, калі ён раптам вырашыць абысці ямку ці люк. Хутка можна ехаць толькі тады, калі пешаходы ідуць на другім канцы тратуара.

**3. Пры яздзе па парку**, плошчы і ў месцах, дзе людзі ходзяць хаатычна, трэба ўлічваць траекторыю руху тых, хто меркавана перасякае вашу траекторыю. Пры гэтым адлегласць да іх павінна быць не менш за пяць метраў у момант праезду каля іх. Наогул, падобная сітуацыя максімальна небяспечная з прычыны хаатычнага руху пешаходаў, якія могуць рэзка пайсці і нават пабегчы куды заўгодна. Таму: чым больш людзей, тым ніжэй павінна быць хуткасць.



**Даведка "РГ". Дзмітры Краўчанка** нарадзіўся 5 снежня 1975 года ў Новакузнецку. Пасля заканчэння гульнявой кар'еры працаваў у дзіцяча-юнацкай школе па хакеі ў Гродне. Узначальваў "Гомель-2", з якім чатыры разы выйграваў першынство фарм-клубаў. Працаваў у маладзевай зборнай Беларусі, затым у ХК "Нёман" (Гродна). У 2013 годзе яго каманда стала чэмпіёнам Беларусі. Двойчы (2011, 2013) прызнаваўся лепшым хакейным трэнерам Беларусі паводле апытання газеты "Прэсбол".

**Дзмітры Краўчанка: "Не бывае такога, каб я за пяць хвілін прыходзіў на трэніроўкі. Калі трэніроўка пачынаецца ў 16:00, у 14:00 я ўжо ў палацы".**

**Фота Наталлі ТУР.**

ХАКЕЙ

# Галоўны трэнер: хакей – самы складаны від спорту

МАЛАДЗЕЧНА

**Галоўны трэнер ХК "Дынама-Маладзечна" Дзмітры Краўчанка распавядае пра новы сезон, карпаратывы і пра тое, як адпачыць летам ад каманды і дзяцей.**

Сустрэча з Дзмітрыем Краўчанкам адбылася ў яго кабінеце ў Лядовым палацы. На сцяне – магнітная дошка, на якую быццам шахматныя фігуры прымацаваныя таблічкі з імёнамі гульцоў.

– Я люблю шахматы, – скажа потым хакейны трэнер, не адзін раз зірнуўшы на гэтую дошку, – і сам добра гуляю.

На стале – сшытак, у якім, акрамя раскладу гульняў і трэніровак, трэнер запісвае афарызмы, цытаты. На палях – малюнкі.

– Я пагаджуся хутчэй грошы згубіць, чым гэты сшытак, – прызнаецца пазней трэнер.

## У камандзе хлопцы да гульні галодныя. І гэта добра

Напярэдадні новага хакейнага года Дзмітры Краўчанка падсумаваў вынікі першага сезона маладзечанскай каманды.

– Па-першае, калі я год таму ўзначаліў каманду, было цікава, ці зможам мы стварыць калектыў. Зорак хакейных у камандзе няма. Узрост гульцоў ніжэй за сярэдні. Магу сказаць, што задача – даць магчымасць спартсменам быць у добрай гульнявой форме – выкананая, хаця вынікам сезона я не вельмі задаволены. Але хакеісты былі галодныя да гульні. Я гэта адчуваў.

У пацвярджэнне сваіх слоў Дзмітры падняў галаву на магнітную дошку і сказаў:

– Шмат ратацый адбылося за гэты год. Я нават дакладна цяпер не скажу, колькі гульцоў прыйшлі і сышлі з каманды. Вось цяпер дзевяць маладзечанцаў у складзе мінскага "Дынама" едуць у Рыгу на кубак Латвійскіх чыгунак. Гэта **Віталь Бялінскі, Дзмітры Знахаранка, Аляксей Бадун, Артур Абмётка, Станіслаў Лапачук, Мікіта Прышывалка, Аляксей Аўтаеў, Аляксандр Сёмачкін, Мікіта Феакцістаў.**

**– А як жа маладзечанская каманда без вядучых гульцоў?**

– Будзе складана, вядома. Але гэта ўмова нашага фарм-клуба. Мы цесна супрацоўнічаем з **Любамірам Покавічам**, галоўным трэнерам мінскага "Дынама", і я на яго месцы рабіў бы тое самае.

Склад каманды на сезон 2015-2016 года значна аднавіўся.

– Але і мінулагодніх гульцоў губляць не хацелася б. Трэніроўкі ідуць ужо дзевяць тыдняў, я бачу, што ў хлопцаў ёсць жаданне, ёсць матэ. Хацелася б, каб яны захавалі такі азарт і на чэмпіянат.

Без траўмаў, вядома, у хакеі не абыходзіцца. Пашкодзіў ключыцу і на месяц выпаў з трэніровак **Ігар Варывончык**. Траўмы атрымалі **Сяргей Голубеў** і **Андрэй Філічкін**.

– Падабаецца мне Андрэй. Моцная асоба і талковы хлопец, – кажа Дзмітры пра капітана сваёй каманды.

**– А бывала, што памыляліся ў людзях?**

– Канешне, здаралася. Я наогул заўсёды веру людзям. Крыўдна, калі яны падводзяць.

Нядаўна запісаў адну індыйскую мудрасць, – працягвае Дзмітры, шукаючы запісаныя словы ў сваім запаветным сшытку. –

**Чалавек – гэта сасуд. Піхні яго – чым запоўнены, тое з яго і выльецца. Правяраў, так і ёсць.**

**– Усе свае думкі запісваеце?**

– Мне адна багатая дама калісьці сказала: "Дзіма, хочаш быць паспяховым, запісвай усе ідэі". Карыстаюся парадай да сёння.

## Не дарую людзям спазнення

**– А адпачываеце вы разам з камандай?**

– У пачатку мінулага сезона толькі адзін раз выбраліся на прыроду, падсмажылі мяса. Гэта ў офісах пасля карпаратываў можна застаць на ноч, а нам жа назаўтра давядзецца бегаць. Затое сёлета ўпершыню ад 1997 года з жонкай з'ездзіў адпачыць у Егіпет. Без дзяцей. І гэта было так класна. Хаця дзяцей люблю, у мяне іх нямала.

**– Колькі?**

– Пакуль чацвёра. Але на руцэ пяць пальцаў. Вельмі хачу дачку.

**– Дзеці таксама займаюцца хакеем?**

– Сярэдні сын займаецца. Вось гулялі ў Маладзечне супраць мясцовай каманды, дапамагаў яму, назіраў, раіў. Я не прымушаў сына ісці ў хакей, сам выбраў. Але я на 100% упэўнены, што хлопчык павінны займацца спортам. Любым, але займацца. А хакей... Ну гэта, на мой погляд, самы складаны від спорту. Тут мала быць хакеістам. Ты і штангіст, і атлет. Трэба ў галаве заўсёды трымаць некалькі рашэнняў і прымаць іх за нейкія долі секунды. І пры гэтым катацца на двухміліметровым лязе.

**– Таму вы выбралі хакей?**

– А ў мяне іншага варыянту не было. Я ж з Сібіры. Там усе дарогі замерзлыя, надзеў з раніцы валёнкі – і на лёд. Трэніроўкі пачыналіся ў 7 раніцы. А паспрабуй спазніцца. Нашто тады наогул прыходзіць? З таго часу ў мяне звычка ўставаць рана і не даруваць людзям спазнення. Я чалавек абавязковы і патрабую таго ж ад іншых. Мне жонка бывае кажа: "Ты чаму яшчэ не сабраўся? Я ўжо апранулася". На што я ёй кажу: "Ты спачатку свае абцасы надзень, Тараса (малодшы сын) апрані, тады я толькі пачну збірацца, бо гэта ўсё адно будзе хутчэй".

**– Дома вы таксама трэнер?**

– Не, дома я іншы. Мяккі, спакойны, вясёлы. І я вельмі рады, што ў маім жыцці ёсць жанчына, якая заўсёды мяне падтрымае.

## Ад дабрачынных акцый павінна акрыляцца душа

Хакеісты "Дынама-Маладзечна" акрамя гульняў актыўна прымалі ўдзел у дабрачынных акцыях, супрацоўнічалі з інтэрнатам №2 для дзяцей з дрэнным зрокам.

**– Дзмітры, а чаму вы не ўдзельнічалі ў тых сустрэчах?**

– Я проста быў у Мінску. Ні ў якім разе я не ігнарую такія мерапрыемствы. Наадварот, лічу, што яны патрэбныя, пасля такіх сустрэч акрыляецца душа. Памятаю выпадак яшчэ ў Гродне, у 2009 годзе, пайшлі мы ў інтэрнат, прынеслі прысмакі, сядзім частуемся. Тут маленькая дзяўчынка залазіць да мяне на калені і кажа: "Тата, а ты чаму не ясі?" Я не перабольшваю, у мяне сапраўды з'явіліся слёзы.

Развітваючыся з Дзмітрыем, пытанне наконт задач на гэты сезон усё ж задала:

– Я чытаў у прэсе, што нам ставяць задачу 8 месца ў чэмпіянаце. Гэта смешна. Нашто тады выходзіць на лёд, калі не змагацца за верхнія радкі турнірнай табліцы. Мы пазмагаемся.

**Наталля ТУР.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь" разграміла "Слонім"

СМАРГОНЬ

Футбольны клуб "Смаргонь" на дамашнім стадыёне 16 жніўня атрымаў выніковую перамогу над "Слонімам" – 5:1.

За першыя 60 хвілін матча гледачы ўбачылі толькі адзін гол – пенальці рэалізавалі гаспадары. Астатнія пяць уляцелі ў вароты абедзвюх камандаў за апошнюю трэціну матча.

У смаргонцаў па два разы вызначыліся **Ігар Крывабок і Яўген Калінін**, адзін гол забіў **Сяргей Крот**.

– Баявая гульня, забілі дастаткова шмат галоў. "Слонім", напэўна, не заслугоўваў такога разгромнага ліку, але мы пры сваіх заўзятарах згулялі годна і заслужана перамаглі, – ацаніў гульню галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк**.

"Смаргонь" узнялася на пятае месца ў турнірнай табліцы.

## "ДЮСШ-4" набліжаецца да лідараў

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

"Вілія" з Вілейкі ў 15-м туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе гуляла 16 жніўня ў гасцях. Сустракаліся з "Зоркай" з Пухавіцкага раёна. Матч завяршыўся ўнічыю 1:1

– Больш атакавалі гаспадары. На матч яны выставілі шмат гульцоў з мясцовай каманды другой лігі, – расказвае прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Мы гулялі ад абароны. Як заўсёды, выручаў наш варатар **Павел Лявошка**. Першымі забілі гаспадары. А ў другім тайме **Дзмітры Янель** адквітаў гол са штрафнога, з метраў трыццаці. Штрафны гэты сам і зарабіў.

"ДЮСШ-4" з Маладзечна дома выйграла ў "Лівадзіі-Юні" з Дзяржынска 2:1. Галы ў гаспадароў забілі **Сяргей Галюк** і **Аляксей Вышынскі**.

Багатым на галы выдаўся матч у Чысці. "Забудова-Буд" абыграла "СМІаўтатранс" (Смалявіцкі раён) 6:3. У гаспадароў двойчы вызначыўся **Драздовіч.**

ДЮСШ-4 па-ранейшаму на трэцім месцы. Перамога дазволіла скараціць адставанне ад лідараў. "Колас" і "Старыя Дарогі" згулялі паміж сабой унічыю, і маладзечанцы адстаюць ад іх цяпер на шэсць і адно ачко адпаведна.

"Вілія" зноў шостай, "Забудова-Буд" – восьмай.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

## 800 пацыентаў маладзечанскай паліклінікі кожны месяц заказваюць талон і не прыходзяць на прыём

"Няма ў нас яшчэ дастатковага ўзроўню культуры. Хіба цяжка папярэдзіць, што не прыйдзеце? А што, калі паспрабаваць паважаць адзін аднаго і незапатрабаваны талон вяртаць у паліклініку?!" Тых, хто сістэматычна заказвае талоны, а сам не прыходзіць, трэба ўносіць у "чорны спіс". ***Антон.***

Даводзілася сустракаць чалавека, які ўжо ад паловы пятай раніцы быў ля паліклінікі. Цікава, як адбываецца сам "працэс" : звычайна, каля сямі гадзін нехта раўкне "Строимся!", тады ланцуг з хворых і не вельмі хворых людзей выглядае што тая мнаганожка. Не абыходзіцца тут без лаянкі. так, гэта рэпетыцыя "ласкавай і ветлівай" размовы побач з кабінетам спецыялістаў, пра якіх асобная размова. Дадатковы талон - цікавая штука. Па сутнасці, жывая чарга, толькі адвялі ад сябе вочы - калі пацыент не паспеў да ўрача, то выключна яго праблемы. Карацей кажучы, лячыцеся самі, а лепш - не хварэйце ! ***Андрэй.***

Прапаную штраф. Як за лжывы выклік спецслужбаў. ***Марына.***

## Пасля скандалу ў інтэрнэце з Валожынскай бальніцы звольнілі загадчыка інфекцыйнага аддзялення

Падобная гісторыя адбылася і з маім сынам, калі яму было 8 месяцаў. Завезлі ў інфекцыйнае аддзяленне, але там пажылы доктар сказаў, што інфекцыйная бальніца – гэта не лепшае месца для хворага дзіцяці. Я, кажа, навучу вас, што і як рабіць і чым лячыць. Мы паехалі дадому, рабілі так, як сказаў доктар, і вылечыліся. Але было гэта ў Магілёве. А з дачкой сітуацыя была нашмат горшая. У 4 месяцы захварэла. "Хуткая" завезла ў дзіцячую бальніцу ў Маладзечне, дзе праз некалькі дзён там заразілася сальманелёзам. Яе перавезлі ў інфекцыйную бальніцу, паклалі разам і мяне. Давялося месяц лячыцца. Разам з намі ў палаце ляжалі яшчэ хлопчык і зусім маленькая дзяўчынка. Я сама месяц мыла палату, хлоркай праціралa дзвярныя ручкі, металічныя ложкі, карміла дзяцей і даглядала іх. У мяне скура з далоняў аблазіла ад хлоркі. Але ўсе дзеці сталі папраўляцца. Калі мы выпісваліся, то доктар сказала: "Вы зрабілі цуд. Гэта была палата смертнікаў, калі сюды каго клалі, то дзеці паміралі. А тут усе дзеці папраўіліся". Гэтыя словы я памятаю заўсёды. З таго часу прайшло больш за 30 гадоў, дачка мая вырасла, яна сама ўжо доктар-хірург. ***Марыя.***

## Ці ставяць кіроўцы без асаблівасцяў машыны на месцы для інвалідаў, калі ўся стаянка пустая (Рэгіён)

Ага, калі ў аўтобусах не саромеюцца і займаюць месцы для інвалідаў, то што казаць пра паркоўкі. ***Святлана.***

У суботу раніцай асабіста бачыў карціну, як двое мажных мужчын, мужыкамі неяк называць іх нават не хочацца, пры паўпустой стаянцы прыпаркаваліся на месцах для інвалідаў. ***Антон.***

## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА




Фота Святланы ХАРЛАН.

**Кот Цімафей маладзечанкі Святланы Харлан кожны дзень спяшаецца заняць дзіцячую каляску, пакуль Святлана не паклала ў яе свайго сыночка Андрушу.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 9 | 6 | | | | |
| | | | | | | | | |
| 6 | 3 | 2 | | 7 | | 5 | | |
| 8 | | 4 | | | 1 | 9 | | 3 |
| 5 | | | | | | | | 8 |
| 3 | | 7 | 2 | | | 4 | | 5 |
| | | 6 | | 4 | | 2 | 8 | 1 |
| | | | | | | | | |
| | | | 9 | 8 | | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ● РЭПЕРТУАРЫ

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна




*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, дзіцячы "**Какоша – маленькі дракон**" (3D, Германія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
23 жніўня – у 12:50
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Міньёны**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
22 жніўня – у 13:00
23 жніўня – у 16:50
24, 26 жніўня – у 16:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Трылер "**Тэрмінатар: Генезіс**" (3D, ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
21 жніўня – у 19:30
22 жніўня – у 17:10
23, 25 жніўня – у 21:00
24, 26 жніўня – у 18:30
Цана білета: 45 000-55 000 рублёў

Фантастычныя прыгоды "**Свет Юрскага перыяду**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
27 жніўня – у 16:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Крымінальная камедыя "**Агенты U.N.C.L.E.**" (ЗША, 2015, з 16 год)
21 жніўня – у 17:10
22 жніўня – у 19:40
25 жніўня – у 16:20
Цана білета: 35 000-45 000 рублёў

Прыгоды, баявік, фантастыка "**Фантастычная чацвёрка**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21 жніўня – у 15:00
21, 22 жніўня – у 22:00
22 жніўня – у 15:00
23 жніўня – у 14:40, 18:50
24, 26 жніўня – у 21:00
25 жніўня – у 18:40
27 жніўня – у 19:00
Цана білета: 35 0000-50 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Канікулы**" (ЗША, 2015, з 16 год)
27 жніўня – у 21:10
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, прыгоды, фантастыка "**Робаты**" (Малайзія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
21, 22 жніўня – у 16:00
23 жніўня – у 14:00
27 жніўня – у 17:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Оз: Нашэсце лятучых малпаў**" (Мексіка, 2015, без узроставых абмежаванняў)
22 жніўня – у 14:00
24, 26 жніўня – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
24, 27 жніўня – у 15:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Лясны патруль**" (Нарвегія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
25 жніўня – у 15:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя "**Тэд Джонс і згублены горад**" (Іспанія, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 жніўня – у 15:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя, сямейны "**Прыгоды Падынгтона**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
22 жніўня – у 18:00
23 жніўня – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Фэнтэзі, трылер, дэтэктыў "**Як злавіць монстра**" (ЗША, 2014, з 16 год)
22 жніўня – у 21:00
24 жніўня – у 19:30
27 жніўня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік, прыгоды "**Апошнія рыцары**" (Чэхія, Паўднёвая Карэя, 2014, з 18 год)
21 жніўня – у 21:00
23 жніўня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды "**Мае афрыканскія прыгоды**" (Данія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
21, 23 жніўня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка, трылер "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка 1**" (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 жніўня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя **"Прывід"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
25 жніўня – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма, трылер "**Вядзьмарка**" (Расія, 2015, з 16 год)
26 жніўня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Казкі марскога ваўка**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
21 жніўня – у 14:30
22 жніўня – у 15:30
23 жніўня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік "**Ваўкі**" (Францыя, Канада, з 16 год)
21, 22 жніўня – у 18:00
23 жніўня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца. Частка 1**" (ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21, 22 жніўня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Паштальён Пэт**" (Вялікабрытанія, без узроставых абмежаванняў)
22 жніўня – у 14:00
23 жніўня – у 15:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Прыгоды "**Пуцёўка ў жыццё**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23 жніўня – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя "**Міньёны**", (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
21 жніўня – у 14:00
23 жніўня – у 13:00
22 жніўня – у 17:00
Цана білета: 30 000-55 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Тэрмінатар: Генезіс**" (ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
21 жніўня – у 16:00
22 жніўня – у 19:00
23 жніўня – у 15:00
Цана білета: 45 000-55 000 рублёў

Крымінальная камедыя "**Агенты U.N.C.L.E.**" (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21 жніўня – у 18:30
22 жніўня – у 13:00
23 жніўня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік "**Фантастычная чацвёрка**" (2D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
21 жніўня – у 21:00
23 жніўня – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, трылер "**Не ў сабе**" (2D, ЗША, з 16 год)
22 жніўня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Антураж**" (2D, ЗША, з 18 год)
23 жніўня – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

## ● ГАРАСКОП 21-27 ЖНІЎНЯ

**Авен.** Калі даводзіцца шмат працаваць, то добра час ад часу сябе песціць – мяккі плед, цікавая кніжка, смачная вячэра...

**Цялец.** Кажуць, што ўсё новае, гэта добра забытае старое. І ў гэтым вы самі пераканаецеся. Зоркі катэгарычна супраць любых рызыкоўных эксперыментаў. Затое, калі будзеце прытрымлівацца шляху, праверанага часам, і захоўваць правілы, што даўно ўстаяліся, да поспеху вы прыйдзеце самай кароткай дарогай. Гэта справядліва ва ўсіх сферах жыцця – і ў бізнесе, і ў быце, і ў адносінах з людзьмі.

**Блізняты.** Калі хочаце што арганізаваць, старайцеся канкрэтна сфармуляваць сваю думку: што трэба, навошта і якую карысць гэта каму прынясе. Інакш ніхто для вас і пальцах не варухне.

**Рак.** Не бойцеся быць шчаслівымі. І няхай сабе навакольныя коса глядзяць на вашу не да месца ўсмешку. Калі вы задаволеныя і шчаслівыя, свет вакол вас пачынае мяняцца ад вашага пазітыўнага настрою.

**Леў.** Лета на зыходзе. Скарыстайцеся яго прыемнымі дзянькамі і махніце куды-небудзь. Вам ну проста неабходныя станоўчыя эмоцыі.

**Дзева.** Вам даўно пара заняцца спортам. Ваш арганізм будзе радасна прымаць фізічныя нагрузкі. Галоўнае, выбірайце бяспечныя трэніроўкі.

**Шалі.** Вучыцеся давяраць сваёй інтуіцыі, у спрэчных пытаннях слухайце сваё сэрца. Яно ніколі вас не падвядзе.

**Скарпіён.** Ва ўласным жыцці ўсё будзе цудоўна, калі толькі вы не станеце прыдзірацца па дробязях.

**Стралец.** Жыццё такое, якое яно ёсць. У ім ёсць усё. І вясёлае, і сумнае. І яркае, і цьмянае. Толькі пытанне ў тым, якія лінзы ты надзяваеш, калі разглядваеш тое, што вакол.

**Казярог.** У выхадныя вам не зашкодзіць расслабіцца і адпачыць у камфортных умовах.

**Вадалей.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**Рыбы.** Вы поўныя аптымізму і гатовыя нешта рабіць. Важна, каб вашы справы і ўчынкі былі накіраваныя на стварэнне, бо тады і ўдача будзе гарантаваная.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by


Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

● НАДВОР'Е

**22 жніўня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 +23 | | +15 +25 | | +16 +24 | | +15 +26 | |
| | 751 | ↖ 3 | 748 | ← 2 | 746 | ↖ 3 | 745 | ↑ 5 |
| Вільня | +10 +21 | | +14 +24 | | +15 +24 | | +14 +25 | |
| | 761 | ↓ 1 | 758 | ← 2 | 756 | ← 3 | 754 | ↖ 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.02
Захад 20.28
Даўжыня дня 14.26

Усход 14.15
Захад 23.29
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +7,2 °C у 1990 годзе
Максімальная тэмпература +30,2 °C у 2007 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,7 мм у 1994 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## З якога ўзросту лепш адпраўляць у школу дзіця?



**Раман Цівуновіч, прамысловы альпініст:**
– Думаю, з шасці гадоў. Так дзіця не губляе сяброў, што былі ў дзіцячым садку, ідзе разам з імі ў школу. Тым больш, такія дзеці раней сканчаць школу, а значыць, будзе больш магчымасцяў знайсці свой шлях у жыцці, прафесію. Але аб гэтым мне пакуль цяжка разважаць, таму што няма сваіх дзяцей.



**Алена Васільева, адміністратар:**
– Лепш з сямі гадоў, тады дзіця больш падрыхтаванае да школы і фізічна, і псіхалагічна. Таму будзе больш уважлівае на ўроках, уседлівае.



**Дар'я Стальмашэнка, школьніца:**
– Лічу, што лепш адпраўляць дзяцей у школу з шасці гадоў. Па-першае, раней сканчаць яе, а значыць, будзе больш магчымасцяў выбраць прафесію.



**Кацярына Кулеш, маладая мама:**
– У садок дакладна лепш аддаваць дзіця раней. Чым даўжэй яно знаходзіцца з мамай, тым складаней яму разлучацца з ёй, складаней адаптавацца ў калектыве. Па гэтым жа прынцыпе лепш аддаваць дзіця ў шэсць гадоў у школу.



**Соф'я Кулеш, пенсіянерка:**
– Я адпраўляла б дзяцей у сем гадоў у школу. Яны ўжо больш дарослыя, больш разумеюць, што ад іх хоча настаўнік. У шэсць гадоў дзіця яшчэ не нагулялася, таму яму складаней выседзець урок. Ды і калі ж дзіцяці гуляць, як не ў гэтым узросце.



**Георгій Тулейка, інжынер:**
– У савецкі час усе бацькі адпраўлялі дзяцей у сем гадоў у школу. Дзеці ў гэтым узросце больш дарослыя, ім лягчэй спраўляцца з тым аб'ёмам ведаў, які дае настаўнік.



**Дзмітры Сыракваш, работнік культуры:**
– Мой унук пайшоў у школу ледзьве не ў восем гадоў – у яго дзень нараджэння ў канцы верасня. І гэта добра – падрос, нагуляўся з цацкамі, таму і на ўроках больш уважлівы. З узростам старэйшыя дзеці больш адказна падыходзяць да выбару жыццёвага шляху, прафесіі.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

## Чытайце праз тыдзень:

● Рускія і нямецкія салдаты зноў сышліся ў баі. Як на Мядзельшчыне праходзіла рэканструкцыя баёў Першай сусветнай вайны, чытайце ў наступным нумары.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Хлопчык-першакласнік прыходзіць са школы 1 верасня і гаворыць бацькам:
– Усё, у школу больш не пайду.
Бацькі пытаюцца, чаму.
– Пісаць я не ўмею. Чытаць таксама не ўмею. Дык яшчэ і размаўляць не дазваляюць!

***

Першакласнік вяртаецца са школы. Тата пытаецца:
– Сынок, чаму ты навучыўся?
– Я навучыўся пісаць.
– У першы дзень? Што за разумнае дзіця! І што ж ты напісаў?
– Хто ж гэта ведае? Я яшчэ не навучыўся чытаць.

***

Вовачка ўбачыў перад школай шыльду, якую нядаўна ўстанавілі: "Збаў хуткасць, наперадзе школа. Прачытаў і гаворыць сам сабе: "Дзівакі, можна падумаць, што туды нехта галопам бяжыць!"

Аддзел інфармацыі.




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 34 (1060) 21.08.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1088. Падпісана ў друк у 9.00 20.08.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.